ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 44 (2342) 4 лістапада 1993 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 10 рублёў.

*НА 100-я ЎГОДКІ НАРАДЖЭННЯ Кастуся ЕЗАВІТАВА (5.XI.1893 — 23.V.1946)*

# ПАКЛІКАНЫ КРАІНАЙ БЕЛАРУСЬ

## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ К. ЕЗАВІТАВА

"Мы,

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, Іменем Беларускага Народу..."

З дыпламатычным пашпартам Беларускае Дзяржавы палкоўнік Кастусь Езавітаў прыбыў на пачатку верасня 1919 году да Рыгі ў якасці поўнамоцнага кіраўніка Вайскова-Палітычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі.

Місія дыпламата, з ведамых прычын, трывала вельмі нядоўга, хоць на латыскай зямлі дзеля Беларускае Справы Езавітаву давялося правесьці амаль усе свае наступныя гады. Там і працягваў слугаваць абранай справе відны дзеяч-адраджэнец, адзін з арганізатараў I Усебеларускага Кангрэсу, пачынальнікаў-будаўнікоў беларускае дзяржаўнасці, беларускае вайсковасці, нястомны ратай-сейбіт на беларускай нацыянальна-культурнай ніве. Былі на жыцьцёвым шляху ягоным посьпехі і прагалы, узлёты і падзенні, але, як падкрэсліць у аўтабіяграфіі пад сваё пяцідзесяцігоддзе, "адным ганаруся — ніколі не адышоў ад беларускае народнае справы, ні пры якіх абставінах".

Ці не гэтымі грамадзянскімі якасцямі беларускага чалавека, патрыёта-падзвіжніка і адметны Езавітаў у сваіх прыватных пісьмах і часткова дзелавых паперах, фрагменты якіх у храналагічнай чароднасці друкуюцца ніжэй.

Старонкі лістоў даволі выразна і, як здаецца, не менш пераканаўча пасведчваюць цэльную беларускую натуру аўтара, чые асабістыя перажыванні, клопаты, увесь лёс асабісты наскрозь, назаўсёды зніталаўся з лёсам Бацькаўшчыны, з праблемамі яе гістарычнай працаздольнасці, нацыянальнай тоеснасці, нацыянальнага гонару, грамадзянскай і духоўнай паўнацэннасці беларуса.

(Працяг на 4-й стар.).


Дыпламатычны пашпарт

Passeport Diplomatique

Diplomatischer Paß


№

Мы,

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі,

іменем Беларускага Народу,

просімо ўсе ваенныя і цывільныя установы чужаземных Дзяржаў і загадываемо ўсім прыслухаючым нам ваенным і цывільным уласьцям, каму гэты пашпарт будзе паказаны, дазволіць свабодны праезд нашаму Начальніку Вайскова-Палітычнай Місіі у Латвіі і Эстоніі палкоўніку Канстанцыну Езавітаву і даваць яму у патрэбе усялякую дапамогу

Выданы у Коўні 5 верасьня 1919 г.

Старшыня Рады Народных Міністраў:

Пашпарт мае моц да 5. сакавіка 1920 г.

Старонкі дыпламатычнага пашпарта Кастуся ЕЗАВІТАВА.

## У ЧЫМ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЗША...



Колькігадзінны візіт Дзяржаўнага сакратара ЗША Уорэна Крыстофера ў Мінск, які адбыўся 26 кастрычніка пералётам з Украіны ў Латвію, дае магчымасць меркаваць пра інтарэс ЗША да Беларусі. Вядома ж, Злучаным Штатам не дае спакою ядзерная зброя ў расхрыстаных бязладдзем дзяржавах СНД. Дзяржсакратар не хаваў гэтага ні перад кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь у час перагавораў, ні перад журналістамі на прэс-канферэнцыі. "Цэнтральным прызначэннем маёй паездкі ў Маскву, Алматы, Кіеў і Мінск з'яўляюцца дзве мэты: скарачэнне ядзерных арсеналаў і заахвочванне ўсіх гэтых краін да правядзення палітыкі нераспаўсюджвання ядзернай зброі, — падкрэсліў высокі госць і пахваліў нас ды паставіў у прыклад іншым. — Злучаныя Штаты высока цэняць тую гістарычную ролю, якую адыграла Беларусь, тыя крокі, якія яна зрабіла дзеля скарачэння ядзерных сродкаў, што засталіся на яе тэрыторыі ад былога Савецкага Саюза".

А яшчэ ЗША хацелі б, каб Беларусь супрацоўнічала з усімі краінамі НАТО. Паводле праграмы "Партнёрства дзеля міру", з якой У.Крыстофер ад імя прэзідэнта ЗША азнаёміў кіраўніцтва нашай рэспублікі і якую рэкамендаваў нам, такое супрацоўніцтва Беларусі ў сумесным планаванні, сумесных манеўрах было б дадатковай гарантыяй нашай бяспекі.

Падчас сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам, міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам Уорэн Крыстофер выказаў пажаданне, каб да канца года ЗША і Рэспубліка Беларусь падпісалі дагавор аб узаемнай абароне інвестыцый.

Але ці не найбольш зацікаўлены ЗША ў датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет вясной 1994 года. Так зацікаўлены, што нават гатовы прадаставіць тэхнічную дапамогу ў правядзенні такіх выбараў.

Каб нам было менш клопату...

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Дзяржсакратара ЗША Уорэна КРЫСТОФЕРА са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам ШУШКЕВІЧАМ.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

УЖО ГАТОВЫ

## БЕЛАРУСКІ ПАШПАРТ

**Амаль усё падрыхтавана для выдачы новых пашпартоў грамадзянам Беларусі. Саветам Міністраў зацвярджана Палажэнне аб новым пашпарце. За мяжой закуплена неабходная тэхнічная база для друкавання пашпартоў, якую плануецца выкарыстоўваць у перспектыве і для друкавання іншых дакументаў, у тым ліку па заяўках іншых краін СНД. Застаецца толькі прывесці гэту тэхніку ў дзеянне, што і будзе зроблена ў бліжэйшы час. Плануецца, што пашпарты грамадзян Беларусі новага ўзору будуць выдавацца ўжо ў першай палове наступнага года, і першымі іх атрымаюць жыхары Мінска. Усяго ж на пашпартызацыю насельніцтва Беларусі, на думку спецыялістаў, спатрэбіцца не менш чым два гады.**

**Паводле звестак БелаПАН, новы пашпарт грамадзяніна Беларусі універсальны, паколькі будзе дзейнічаць і на перыяд паездкі за межы рэспублікі, і машыначытальны — гэта значыць яго даныя можна счытваць з дапамогай камп'ютэраў. Плануецца ўвядзенне рэгістра — своеасаблівага кода грамадзяніна ў выглядзе адзінаццацізначнай лічбы. Нацыянальнасць у пашпарце не пазначаецца. Тэкставае афармленне будзе рабіцца на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. З дазволу грамадзяніна ў пашпарт будзе заносіцца запіс аб яго групе крыві. Прапіска, па сутнасці, не адмяняецца, аднак цяпер яна ўжо будзе называцца "ўказанне месца жыхарства". Выдавацца новыя пашпарты грамадзян Беларусі будуць асобам, якія маюць права на грамадзянства рэспублікі, пры дасягненні імі ўзросту 16 гадоў, а ў 25- і 45-гадовым узростах плануецца мяняць іх на новыя.**

**На ўвесь комплекс мерапрыемстваў, звязаных з правядзеннем пашпартызацыі грамадзян Беларусі, урадам выдзелена 6,5 мільёна долараў і 667 мільёнаў рублёў.**

З'ЕЗД ПНЗ

## ЗА ЦЭНТРЫСЦКІ БЛОК

**Адбыўся другі з'езд Партыі народнай згоды (ПНЗ). На ім прысутнічалі 141 дэлегат, а таксама госці, сярод якіх прадстаўнікі Беларускага навукова-вытворчага кангрэса, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай сялянскай партыі, Свабоднага прафсаюза Беларусі, Саюза прадпрымальнікаў.**

**З палітычным дакладам выступіў старшыня ПНЗ Генадзь Карпенка, які падкрэсліў, што прычынай крызісу ў Беларусі з'яўляецца адсутнасць рэформ, а "праславутая стабільнасць забяспечвалася толькі за кошт Расіі". Адзначыўшы неабходнасць новых выбараў вясной 1994 года, ён выказаўся за правядзенне іх па партыйных спісах, што выгадна ўсім партыям. Генадзь Карпенка таксама заявіў аб неабходнасці стварэння кааліцыйнага ўрада народнага даверу.**

**Адна з задач, пералічаных у прынятай з'ездам рэзалюцыі, — дабівацца назначэння выбараў у сакавіку 1994 года разам з усімі палітычнымі сіламі. Адзначана неабходнасць пачаць падборку кандыдатур ад партыі, а таксама вывучаць магчымасці стварэння цэнтрысцкага блока (найбольш верагодныя саюзнікі ПНЗ — БНВК, БСДГ). У падагульняючым дакуменце з'езда прапанавана правесці прамыя выбары кіраўнікоў мясцовых органаў улады ў студзені 1994 года.**

**На з'ездзе ўнесены некаторыя змяненні ў Статут, старшынёй партыі зноў выбраны Генадзь Карпенка.**

НАС ВУЧАЦЬ

## ПАГАДЗІННЫ РЭГЛАМЕНТ

**Эксперты Савета Еўропы, якія прадстаўляюць парламенты Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы і Францыі, наведалі Мінск з мэтай аказаць дапамогу беларускім парламентарыям у падрыхтоўцы праекта пагадзіннага рэгламенту Вярхоўнага Савета. На думку члена дэлегацыі пана Штэгена, менавіта гэты дакумент, з'яўляючыся ўнутраным законам парламента, вызначае ў канчатковым выніку дэмакратычнасць вышэйшага заканадаўчага органа дзяржавы.**

**Пан Штэген адзначыў, што шанцы Беларусі на ўступленне ў Савет Еўропы даволі высокія. Паводле яго слоў, гэта паэтапны працэс, які прадугледжвае дэмакратычныя пераўтварэнні ў рэспубліцы, выбары на шматпартыйнай аснове, удасканаленне нацыянальнага заканадаўства.**

*"У свеце ёсць суверэнныя, незалежныя дзяржавы, у якіх няма сваёй валюты, яны выкарыстоўваюць грашовыя адзінкі іншых краін. І нічога, іх эканоміка паспяхова развіваецца. Аналіз цяперашняй сітуацыі падказвае, што выхад з эканамічнага саюза дзяржаў СНД, супрацьўленне працэсу інтэграцыі грашовых сістэм Беларусі і Расіі азначалі б выпадзенне з асобай эканамічнай прасторы. Што азначае адысці цяпер ад Расіі, калі наш эканамічны патэнцыял так цесна звязаны з ёю? На сёння ж няма ніякіх прадпасылак для таго, каб эканоміка Беларусі без сувязей з Расіяй змагла выдаваць канкурэнтаздольную на сусветным рынку прадукцыю пераважна навукаёмістых вытворчасцей, рэсурсазберагаючых, экалагаахоўных тэхналогій. Але ж толькі такая прадукцыя дазволіць дзяржаве набываць па-за Расіяй стратэгічныя матэрыяльна-сыравінныя рэсурсы. Для нас аб'ядноўваючы тэндэнцыі з Расіяй — гэта шлях сумесных структурных пераўтварэнняў эканомікі. Прайсці гэты шлях разам будзе куды лягчэй, чым пасобку. І для нас, і для Расіі".*

*Сцяпан ЯНЧУК, міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь.*

РАДЫЯЦЫЙНЫ КАНТРОЛЬ

**Увесь хлеб, што паступае на хлебапрыёмныя пункты са Слаўгарадскага, Чэрыкаўскага, Крычаўскага раёнаў, абавязкова адпраўляюць на экспертызу ў дазіметрычную лабараторыю. Тут дакладныя прыборы вызначаюць, ці не забруджана збожжа радыяцыяй.**



**НА ЗДЫМКУ: загадчыца Крычаўскай дазіметрычнай лабараторыі Алена МІШЧАНКА праводзіць кантроль збожжа.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

2 МІЛЬЯРДЫ 600 мільёнаў беларускіх рублёў выдзеліў Беларуска-амерыканскі партнёрскі фонд на фінансаванне эканамічных праектаў. Абсяг іх — медыцына, ахова навакольнага асяроддзя, прадпрымальніцтва, забеспячэнне харчаваннем, культура.

ЦЯПЕРАШНІ міністр культуры Беларусі Яўген Вайтовіч прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы. Яго кандыдатуру зацвердзіла ўжо Камісія па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савета рэспублікі.

ЗАМЕСТ Дзмітрыя Арцымені, які нядаўна трагічна загінуў ад рук забойцаў, старшынёй Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў абраны Сямён Домаш, які да гэтага быў старшынёй Гродзенскага гарсавета. За яго кандыдатуру прагаласавалі 140 дэпутатаў, супраць — толькі 11.

ПОЛЬСКІ факультэт адкрыты ў Беларускім камерцыйным універсітэце кіравання ў Мінску. З ініцыятывы Саюза палякаў на Беларусі тут будуць рыхтаваць высокакваліфікаваных кадры для сумесных беларуска-польскіх фірм. Акрамя польскай, студэнты факультэта будуць вывучаць беларускую і адну з замежных моў.

СКАРАЧАЕЦЦА колькасць дзіцячых садкоў, якімі некалі так ганарылася Беларусь. Цяпер іх засталося на ўсе гарады і вёскі каля 5 тысяч, у параўнанні з леташнім паменшылася на 316 садкоў. Іх наведваюць 568 тысяч дзяцей.

З МІНСКА не могуць выехаць да сябе на радзіму каля 50 замежных грамадзян, якія скончылі сёлета Беларускую політэхнічную акадэмію. У Расіі — пераемніцы былога СССР — няма грошай, каб іх адправіць дамоў. Няма таксама і авіябілетаў. Не ў лепшым становішчы і выпускнікі іншых ВНУ, а такіх, каму няма дзе прытуліцца, набіраецца больш за сотню.

КОЛЬКАСЦЬ аўтобусных маршрутаў з Беларусі ў краіны Балтыі, Расію і Украіну рэзка скарацілася. Затое прапягаюць новыя шляхі на Захад. Толькі ў Польшчу за апошнія два гады адкрыты 23 аўтобусныя маршруты. Відаць, неўзабаве пачнецца рэгулярны аўтобусны рух у Чэхію, Германію, іншыя краіны Еўропы.

ФІЛАТЭЛІЯ

## СВАЕ — БЕЛАРУСКІЯ

**Парламенцкай камісіяй па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны разгледжаны пытанні аб выданні беларускіх паштовых марак. Пасяджэнне праходзіла з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства сувязі і інфарматыкі, іншых зацікаўленых структур.**

**Было паведамлена, што з пачаткам абвяшчэння незалежнасці Беларусі выдадзена больш за 20 марак тыражамі ад 1 да 5 мільёнаў экземпляраў. У бліжэйшы час будзе надрукавана яшчэ каля 10 — у тым ліку з партрэтамі Сымона Буднага, Рагнеды, Рагвалода, Язэпа Драздовіча, з адлюстраваннем Кармеліцкага касцёла і герба Мінска, беларускай алімпійскай сімволікі і некаторых звяроў, якія водзяцца на тэрыторыі рэспублікі. Усе маркі друкаваліся да гэтага часу ў Маскве. Аднак цяпер разглядаецца магчымасць выпуску іх на Мінскай картаграфічнай фабрыцы.**

"КАДЫШ — ЖАЛЬБА"

## ДНІ ПАМАЦІ АХВЯР ГЕНАЦЫДУ



**50 гадоў назад быў знішчаны апошні, як мяркуюць, амаль стотысячны вязень мінскага гета. А ўсяго на тэрыторыі Беларусі ахвярамі фашыскіх катаў стала прыкладна 750 тысяч грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці. Лічбы прыкладныя, бо многія і многія тысячы прозвішч яшчэ не ўстаноўлены. Катаваць яўрэяў фашысты прывозілі ў Беларусь з усёй Еўропы. З 19 па 22 кастрычніка ў Беларусі прайшлі Дні памяці ахвяр генацыду — "Кадыш — жальба". Пачаўся ён прэс-канферэнцыяй у МЗС Беларусі. Перад прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый, журналістамі выступілі міністр замежных спраў Беларусі, старшыня арганізацыйнага камітэта па правядзенню Дзён памяці П.Краўчанка, сустаршыня, міністр інфармацыі А.Бутэвіч, вязні гета і іншыя.**

**— Семсот гадоў жылі на нашай зямлі беларусы і яўрэі, — адзначыў Пётр Краўчанка. — Дапамагалі, як маглі, ва ўсім адзін аднаму. І ніколі не было паміж імі варожасці. Таму трагедыя яўрэйскага народа з'яўляецца трагедыяй і беларусаў.**

**У гады вайны Фрыда Рэйзман была амаль дзіцем. Рызыкуючы жыццём, з мінскага гета яе вызвалілі нехта з беларусаў.**

**— На жаль, — адзначыла Фрыда Рэйзман, — я не ведаю гэтага мужнага чалавека. Але ніколі не забуду свайго выратавальніка.**

**Сёння вядомы імёны 34-х беларускіх грамадзян, якія выратавалі ад вернай гібелі яўрэяў. На жаль, многія з іх аддалі за гэта свае жыцці. Яўрэі такіх людзей ва ўсім свеце называюць праведнікамі.**

**Дні памяці ахвяр генацыду прайшлі па ўсёй Беларусі. Галоўныя ж мерапрыемствы адбыліся ў Мінску: выстава кніг у Нацыянальнай бібліятэцы, Тыдзень яўрэйскага кіно ў кінатэатры "Беларусь", выстава карцін у Палацы мастацтва, канцэрт-рэквіем, паездкі да месцаў масавых знішчэнняў яўрэяў і мемарыяльных комплексаў-помнікаў на тэрыторыі Беларусі і іншыя.**

**Завяршыліся Дні ўрачыстым пасяджэннем, якое адбылося ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Адкрыў яго старшыня аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і таварыстваў Беларусі Леанід Левін.**

**З прывітальным словам ад імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ўрада да ўдзельнікаў "Кадыш — жальбы" звярнуўся Станіслаў Шушкевіч. Ён зачытаў фрагменты пасланняў прэзідэнта Германіі Рыхарда фон Вайцзэкера і прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела.**

**Ва ўрачыстым пасяджэнні прынялі ўдзел кіраўнікі рэспублікі, творчая інтэлігенцыя, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, а таксама шматлікія госці — прадстаўнікі ізраільскага пасольства, старшыня сейма Літоўскай Рэспублікі Чэслаў Юршэнас, галоўны рабін Нью-Йорка Артур Шнаер, прадстаўнікі рэлігійных канфесій і грамадскіх арганізацый.**

**НА ЗДЫМКУ: сустрэча творчай інтэлігенцыі Мінска з ахвярамі генацыду ў драматычным тэатры імя М.Горкага.**

НАТАТКІ "З ПРАВІНЦЫІ" ПАД СТАЛІЦАЙ

# СТАРЫЯ ПАБУДОВЫ. НОВЫЯ ЧАСЫ

Цяжка паверыць, што пасёлак Калодзішчы знаходзіцца ў дзесятку кіламетраў ад сталіцы. Не праходзіць адчуванне, што апынуўся недзе ў глыбінцы Палесся. Паліклініка — барак. Школа даволі новая (каля дзесяці гадоў ёй), але замалая для вялікага пасёлка. Працуе ў дзве змены. Дзеці з усіх Калодзішчаў ідуць туды за некалькі кіламетраў. Прытым — па дарозе, дзе ездзяць машыны, ваенная тэхніка (побач з пасёлкам шмат ваенных аб'ектаў). Зусім нядаўна на асабліва небяспечных месцах дарогі паставілі агароджу.

Жыве ў пасёлку Калодзішчы амаль 10 тысяч чалавек, а па вёсках вакол яго яшчэ прыкладна столькі ж. У Калодзішчах шмат людзей жыве ў бараках. Калодзішчанскі сельскі савет газіфікаваны толькі на 25 працэнтаў. Астатнія 75 працэнтаў дамоў без газу. Летам людзі часам пакутуюць ад недахопу вады. З-за няроўнасці рэльефу вада нераўнамерна паступае ў калонкі. І ў спякоту на больш высокіх участках пасёлка яе проста няма.

Чаму здарылася такое з прыгарадным пасёлкам? Нават у глухой вёсцы часам лепшыя ўмовы жыцця. З гэтым назіраннем я паехала да Васіля Краўчанкі, старшыні сельскага савета. Ён на гэтай пасадзе з 1990 года. Раней працаваў на прадпрыемстве ў Мінску, жыў у Калодзішчах. В.Краўчанка адказвае: "Я не згодны з вамі, калі вы кажаце, што Калодзішчы ў горшым стане, чым любая вёска. Кожны , хто жыве тут, можа ў любы вечар сесці на электрычку ці аўтобус і праз паўгадзіны быць у Мінску ў тэатры, на канцэрце. Што ж тычыцца ўмоў жыцця тут, то трэба, па-першае, ведаць, што Калодзішчы заўсёды былі так званым спальным раёнам сталіцы. Большасць людзей, што тут жывуць, працуюць у горадзе. Яны плацяць падаткі ў бюджэт горада. На тэрыторыі Калодзішчаў няма ніводнага самастойнага прадпрыемства, адны толькі філіялы. Адкуль, скажыце, пасёлак мог атрымліваць сродкі для свайго развіцця?"

Але сельскі савет шукае шляхі для развіцця інфраструктуры пасёлка. Яшчэ ў 1991 годзе сельсавету павінна было перадаць зямлю Міністэрства абароны. Гэта быў крок дзяржавы ў бок канверсіі. Старшыня сельсавета лічыў неабходным, каб зямля трапіла ў рукі людзей, якія хацелі будавацца на ёй і жыць. Дарэчы, у той жа час у Калодзішчах узнік канцэрн, які прапанаваў на правах саўладальніка зямлі выкарыстоўваць яе ў сваіх мэтах, а 5 працэнтаў прыбытку ад яе абяцаў сельсавету. Тут узнікла з яго боку пытанне: дзе ж вашы думкі пра народ? Здзелка не атрымалася.

Тая зямля была не адзіная, якую перадало Міністэрства абароны сельсавету. Хай сабе з'езджанай танкамі і цяжкімі машынамі, яе даволі шмат. Наогул, вакол Калодзішчаў пустуе 5 тысяч гектараў зямлі (былы палігон). У Калодзішчах мяне не пакідала адчуванне, што большая частка нашай невялікай Беларусі — гэта палігоны. Пустая зямля, дзе не расце хлеб, а мужчыны рэпецірують вайну.

Зямлю, якую атрымаў сельсавет, раздавалі людзям пад забудову. Давалі яе як гараджанам, так і тутэйшым. Як растлумачыў мне старшыня сельсавета, гэта прадуманы падыход. Вайскоўцы, што жывуць у мікрараёне Уручча (5 кіламетраў ад Калодзішчаў) і ўсё сваё жыццё прабегалі па палігонах ля пасёлка, маюць такое ж права на атрыманне зямлі, як і людзі, якія працавалі ў Мінску, а жылі ў Калодзішчах. Зямлю атрымалі 1 110 чалавек. Чарга ж тых, хто хоча атрымаць надзелы, не меншая. І яна расце. Спісы папаўняюцца людзьмі, якія не збіраліся будаваць самі дом, а чакалі шмат гадоў кватэру. Сёння дзяржава не дорыць нікому кватэр. Купіць жа яе пры зарплаце 150 тысяч (дарэчы, гэта вышэйшая зарплата за сярэднюю) за 6–8 мільёнаў — нерэальна. І расчараваныя хапаюцца за апошнюю магчымасць атрымаць зямлю. Хто на ёй хоча пасадзіць агарод, хто нават спрабуе нешта пабудаваць. Да старшыні сельсавета прыходзяць людзі з просьбай пра зямлю, якія не маюць грошай, нават каб заплаціць першы ўзнос (каля 10 тысяч), яны спадзяюцца пабудаваць дом, бо шмат гадоў жывуць у бараку. Цяжка размаўляць з такімі, бо ім цяжка дапамагчы. Канешне, сельсавет выдзеліў 30 гектараў зямлі ветэранам, дапамагае яе апрацоўваць. Большасць старых людзей не могуць дазволіць сабе наведваць нават цырульню. Сельсавет аплачвае 50 працэнтаў ад кошту яе паслуг. Састарэлыя абслугоўваюцца там па спісах.

У сельсавеце разумеюць: у Калодзішчах трэба развіваць інфраструктуру. Каб знайсці грошы, сельсавет па дамоўленасці выдзяляе прадпрыемствам зямлю для забудовы. Прадпрыемства ўносіць вызначаную частку на пракладку цеплсецяў, камунікацый, газіфікацыю пасёлка.

Васіль Краўчанка выдзеліў зямлю пад пабудову гаражоў. І за гэта атрымаў шмат нараканняў. Многія былі незадаволены, што стварыўся кааператыў па будаўніцтву гаражоў пры трэсце "Белпалівабуд". Ніхто, праўда, не ўспомніў, што там, дзе сёння гаражы, была звычайная звалка, якая знаходзілася ў нізіне. Гэты кар'ер стаў месцам, куды траплялі з наваколля ўсе нечыстоты. Людзі жылі сярод бруду, смуроду, інфекцый. Яго расчысцілі. На месцы яго пабудавалі гаражы. У сельсавет пайшлі скаргі, галоўная думка якіх: некаторыя людзі маюць некалькі гаражоў, а некаторыя маюць гараж, хоць і не маюць машыны. Здаецца, што тыя, хто пісаў скаргі, не жылі ніколі ў нашай краіне і не ведаюць, што чалавек часта бярэ гараж, каб было дзе бульбу захоўваць. Калі няма адрыны, не высыпаць жа яе на падлогу ў хаце.

Здаецца, узвядзенне новай школы ў Калодзішчах нікога не раздражняе. Сельсавет выдзеліў прадпрыемству "ААА" 25 гектараў зямлі для гэтай мэты. Яно ж па дамоўленасці павінна збудаваць сучасную школу з басейнам, спартыўнымі заламі.

Будаўніцтва паліклінікі Міністэрства аховы здароўя ў Калодзішчах у бліжэйшы час не планавала. Але сельсавет знайшоў людзей, якія ўзяліся за праектаванне паліклінікі. У гэтым годзе закладзены нулявы цыкл (будаўнікі кажуць, што гэта асноўная частка працы). Далей з будаўніцтвам абяцалі дапамагчы ў Міністэрстве аховы здароўя.

Сёння ў Калодзішчах рэгіструюць шлюбы ў прыстасаваным для гэтага памяшканні. Праз некаторы час у пасёлку запрацуе новае памяшканне сельсавета і ЗАГСа. Будаўніцтва вядзе малое прадпрыемства. Плануецца і гандлёвы цэнтр.

Васіль Краўчанка лічыць, што трэба выкарыстоўваць любую магчымасць, каб зрабіць жыццё людзей больш камфортным. Калі не пачаць працу сёння — яна будзе адкладвацца з года ў год. Ён не ходзіць з працягнутай рукой. Ён вырашае пытанні шляхам пагадненняў на аднолькавых правах. Ён ведае, што Калодзішчам патрэбны Дом культуры, нармальны пераезд праз чыгунку. Але сёння, на жаль, даводзіцца выбіраць — Дом культуры ці паліклініка.

У Калодзішчах будуюцца дамы для перасяленцаў з забруджаных раёнаў, для вайскоўцаў, што едуць з Германіі. Да нас у рэдакцыю часам прыходзяць лісты ад людзей, якія б хацелі вярнуцца на Беларусь. Ва ўрадзе рэспублікі, як вядома, прынята праграма "Беларусы ў свеце", якая прадугледжвае і вяртанне нашых землякоў з-за мяжы. Васіль Краўчанка гатовы супрацоўнічаць з урадам у гэтай галіне. "Паглядзіце, колькі зямлі, — сказаў ён, паказваючы на бязмежныя былыя палігоны, — усім хопіць".

Праз некалькі гадоў у Калодзішчах вырасце шмат новых дамоў. Людзі спадзяюцца, што будзе новая школа і паліклініка. А яшчэ ў Калодзішчах будзе храм Божы. Ужо выдзелена зямля абшчыне хрысціян-баптыстаў. Хто ведае, можа праз гадоў 50 Калодзішчы стануць прыгожым пасёлкам еўрапейскага тыпу, куды людзі пасля працы ў горадзе будуць прыязджаць не толькі спаць, але жыць.

**Алена СПАСЮК.**

ПАДПІСКА-94

# А ПРА НАС "ЗАБЫЛІСЯ"...

З 1 кастрычніка на Украіне пачалася падпіска на газеты і часопісы на першае паўгоддзе. Падпіска няпростая. Мяркуйце — самая папулярная ў краіне газета "Голос України", якая мае перыядычнасць 5 разоў на тыдзень, на паўгоддзе каштуе аж 60 000 карбаванцаў! А самая "дарагая" газета ў каталогу перыядычных выданняў на першае паўгоддзе 1994 года — расейскамоўная "Деловая Украина": яе кошт 84 000 карбаванцаў (гэтая ж газета дубліруецца і па-ўкраінску, кошт гэтакі ж!). З 1994 года гарадская газета сталіцы Украіны "Вечірний Київ" спыняе свой дубляж і будзе выдавацца толькі на дзяржаўнай, украінскай мове, а кошт таксама немаленькі — 80 244 карбаванцы!.. Карацей кажучы, падпіска для многіх жыхароў краіны будзе проста не па кішэні.

Праўда, на "выручку" тым, каму не па кішэні газеты і часопісы Украіны, з усходняе мяжы "прыйшлі" газеты і часопісы Расіі, якія можна выпісаць за ўкраінскія карбаванцы, а іх нямала: 42 газеты і 36 часопісаў, менавіта такая іх колькасць змешчана ва ўкраінскім каталогу (упершыню ў гісторыі!). Магу канстатаваць, што кошты такіх выданняў, як "Аргументы и факты" (21 558 карбаванцаў на паўгоддзе), "Недели" (27 906 карбаванцаў) ці часопісаў "Крестьянка" (15 000), "Здоровье" (28 680) будзе многім па кішэні, у каго сёння месячны заробак дасягае 300 000 карбаванцаў... Як бачыце, расійскія паштавікі паклапаціліся пра тое, каб "русскоязычное население" суседняй Украіны не засталося без расейскай прэсы з Расіі (на Украіне гэтаксама, як і ў Беларусі, выдаецца вялікая колькасць газет і часопісаў парасейску). Але ўся справа ў тым, што ў адрозненне ад, скажам, расейскамоўнай прэсы Беларусі ўкраінская расейскамоўная прэса не выступае на сваіх старонках супраць дзяржаўнасці ўкраінскай мовы, за нейкае недарэчнае "двухмоўе" альбо супраць самастойнасці і незалежнасці краіны, за ўцягненне краіны ў "канфедэрацыю" з Расіяй і г.д., чым "пестрят" старонкі бульварнай расейскамоўнай прэсы Беларусі, асабліва яе апалагетаў "Мы и время", "ППП", "Советская Белоруссия", "Белорусская нива"...

На правялікі жаль, не знайшоў я ва ўкраінскім каталогу газет і часопісаў Беларусі, якія б можна было выпісаць за ўкраінскія карбаванцы. Няма іх і ў "чырвоным" каталогу з Расіі, але нават калі б і былі, то мне яны былі б не па кішэні: усё, што ёсць у расейскім каталогу, на Украіне можна выпісаць за ... расейскія рублі! А дзе іх узяць, гэтыя рублі, калі на Украіне мы паспелі забыцца нават пра іх выгляд... І вось сёння мне патэлефанавалі з гарадскога агенцтва "Укрдрук" і паведамілі, што атрымалі "Дадатак N 1" да расейскага "чырвонага" (па колеру вокладкі!) каталога, дзе "обнаружили" .. беларускія газеты і часопісы. Ад такога паведамлення я ледзь не страціў ад хвалявання прытомнасці і борздзенька папёр туды: дзякаваць Богу, агенцтва — насупраць майго дому! Вось ён, гэты "дадатак", дзе сапраўды ёсць шэраг газет і часопісаў Рэспублікі Беларусь. А калі быць дакладным, то скажу, што спіс гэты вельмі і вельмі абмежаваны: 10 газет і 28 часопісаў, па мовах выдання: газет на беларускай мове — 6 ("Голас Радзімы", "Звязда", "Культура", "Наша слова", "Наша ніва", "Свабода"), 4 газеты расейскамоўныя: "Белорусский рынок", "Вестник футболофила", "Набат" і "Детектив". Што тычыцца часопісаў, то беларускамоўных у гэтым "дадатку" кот наплакаў: "Беларусь", "Полымя", "Весці Акадэміі аграрных навук", астатнія — на мове суседняй дзяржавы альбо "гібрыдныя" — на беларускай і рускай мовах адначасова: "Работніца і сялянка", "Гаспадыня", "Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі", "Весці АН Беларусі". Вось і ўсё.

Настрой святочны з мяне выпарыўся ўмомант, таму што не знайшоў я ў гэтым спісе такіх цікавых выданняў, як газеты "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", часопісы "Спадчына", "Беларуская мінуўшчына", "Беларускі гістарычны часопіс", "Роднае слова", "Маладосць", "Першацвет", "Бярозка", "Вясёлка", "Пралеска", "Вожык", "Родная прырода"... Вырашыў, што падпішуся на тры газеты: "Голас Радзімы", "Наша слова" і "Звязду", памяняўшы ў ашчадным банку ўкраінскія карбаванцы на расейскія рублі па курсу 10:1 (за 1 000 расейскіх рублёў патрэбна выкласці 10 000 украінскіх ды яшчэ плюс 3 000 на кожную тысячу "камісійны" збор). Атрымліваецца, што ўжо не 10 000, а ўсе 13 000 карбаванцаў трэба выкласці ўсяго толькі за 1 000 расейскіх "драўляных". Папрасіў маладзічку, якая прымае падпіску прама ў агенцтве, падлічыць, колькі ж мне трэба вымяняць гэтых самых "драўляных", каб падпісацца на тры газеты Беларусі, і пачуў у адказ: "Подпіска на білоруські газети приймается тільки на територіі Росії". Я аж вушам сваім не паверыў, а яна мне паказала гэтую "прыпіску" ў "Дадатку N 1", дзе сапраўды чорным па беламу напісана: "Подписка принимается только на территории Российской Федерации". Вось так мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, засталіся на 1994 год без беларускіх выданняў! І як тут не ўспомніць мне, дэлегату Першага з'езда беларусаў свету ў ліпені гэтага года ў Мінску, колькі слоў было сказана на "круглым стале" "Беларуская дыяспара", дзе прымаўся "Зварот да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь", у якім пад пунктам 8 запісана: "Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя і падпісныя выданні, што выходзяць у Беларусі". Як бачым, "зварот" не "дайшоў" ні да "парламента", ні да "ўрада", таму што ні ў Доме ўрада, ні ў Вярхоўным Савеце не дбаюць пра тых, хто воляю лёсу мусіць жыць за межамі Бацькаўшчыны. Не, прабачаюся, падбалі толькі пра "маскоўскіх беларусаў", бо даводзіцца часцяком рабіць важы ў Маскву, і каб тыя ім "не лезлі ў вочы" са сваімі беларускімі газетамі і часопісам, усё ж хоць і ў "Дадатку" да асноўнага расейскага каталога, але "кінулі костку"...

А што ж, шаноўныя спадары-таварищи, рабіць нам, хто не жыве ў Маскве і Расіі? Хто паклапоціцца пра нас? ЗБС "Бацькаўшчына"? Але яно, як бачым, сваю справу зрабіла: правяло з'езд, выдахлася, адлачывае...

Дык хто ж адкажа нам, украінскім беларусам, як нам аформіць падпіску на газеты і часопісы Беларусі?

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў.

ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# ПАДРУЖЫЛІСЯ НЕМЦЫ З БЕЛАРУСАМІ

Шмат клопатаў у жыхаркі вёскі Цвербуты Лідскага раёна Таццяны Юшэвіч: пад апекай яе і мужа Васіля, калгаснага механізатара, аж сямёра дзяцей. А нядаўна да будзённых турбот сялян дабавіліся незвычайныя: у мнагадзетную сям'ю прыязджалі госці з Германіі Карын і Клаўс Мантхеі.

Сувязі паміж немцамі і беларусамі завязаліся пасля атрымання Юшэвічамі гуманітарнай пасылкі з-за мяжы. Разам з каштоўнымі рэчамі там ляжаў невялікі ліст з прапановай перапісвацца. Неўзабаве пісьмовыя кантакты перараслі ў асабістыя сустрэчы.

І вось Мантхеі другі раз наведалі Цвербуты. Прымалі іх у хаце Юшэвічаў як самых дарагіх гасцей. Па традыцыі была добрая чарка і такая ж закуска. Былі шчырыя размовы, балазе, з гасцямі прыехала і перакладчыца, былі і ўзаемныя падарункі.

Фраў Карын з радасцю зазначыла, што за год, які мінуў з часу іх першага прыезду на Беларусь, падраслі і папрыгажэлі ўсе дзеткі Таццяны і Васіля. Такой жа думкі і Клаўс. Ён ахвотна адгукнуўся памагчы ў пошуках месца пахавання ў Германіі беларускага юнака Генрыха Юзафовіча, які быў вывезены на чужыну на прымусовыя работы і загінуў у канцы вайны ад бамбардзіроўкі.

Юшэвічаў зноў запрасілі ў Нямеччыну. Але як выбрацца бацькам у далёкае падарожжа, маючы такую сямейку? Прыйдзецца для паездкі ў госці пачакаць лепшага часу.

**А. ЖАЛКОЎСКІ.**

# ПАКЛІКАНЫ КРАІНАЙ БЕЛАРУСЬ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

**У прапануемых матэрыялах, як заўважыць чытач, пераважаюць пытанні культуры, уключна з беларускім школьніцтвам, беларусізацыяй царкоўнага жыцця, агульнымі развагамі над гісторыяй, нацыянальным характарам беларусаў, з праблемай іх усенароднага паяднання дзеля свабоды й незалежнасці, урэшце з беларускасцю інтэлігенцыі Беларусі. Пераважае ўвогуле бадай што адзіны, вызначальны для творчае існасці Езавітава культ маці-Беларусі, што вызначыў і жыццёвы выбар, і трагічны фінал (сканаў зняволеным у КГБ БССР) гэтага цягавітага, з высокімі афіцэрскімі адзнакамі ахвярнага салдата Адраджэння.**

**Творчая спадчына К.Езавітава, дакладней, рэшткі яе, надоўга была закратавана ад беларускіх вачэй пад лёхамі "спецхрана" з адыёзнай пячаткай "буржуазного националиста". Што тычыць буржуазнасці нашага героя, то яна ў святле ягонае эпісталярыі праяўляецца менш чым сціпла. Інакш — з нацыяналістычнасцю; аспрэчваць яе цяжка ды наўрад ці варта, калі разумець пад нацыяналізмам агульнапрызнанае ў цывілізаваным свеце права чалавека, народа на абарону свае нацыянальнасці, адданасць сваёй Радзіме, нацыянальнай дзяржаве. У гэтым сэнсе я аддаю перавагу нацыяналісту Езавітаву перад тым ці іншым "інтэрнацыяналістам", увішным гандляваць у іншаземных кабінетах дзяржаўнымі інтарэсамі, гонарам Беларусі, гатовым, не вагаючыся, за танную сыравіну, а найперш за асабістыя даходныя чыны запрадаць суверэнную Беларусь у чародныя імперскія абдымкі.**

**Што неаглядным таргашам ад халуйшчыны, магчыма, і ўдалося б, не валодай сінявокая краіна сваім уласным бясцэнным і неразменным на юдавы срэбранікі скарбам, незнішчальнай зброяй абарончай, выпрабаванай, загартаванай у вяках Скарынам, Сапегам, Каліноўскім, Купалам і Коласам, братамі Луцкевічамі, Ластоўскім і, цалкам відавочна, Кастусём Езавітавым. Прынамсі, паэтычнае прысвячэнне Ларысы Геніюш гэтаму чалавеку (таксама друкуецца, ў давяршэнне да лістоў К.Е.) упаўнаважвае да прачытання на Беларускіх Скрыжалях і ягонага імя.**

**З удзячнасцю адзначаю спрыянне гэтай публікацыі беларускіх архівістаў спадарства Яўгена Бараноўскага, Вячаслава Селяменева, Ганны Сурмач, супрацоўніцы навуковай бібліятэкі АН Літвы сп. Зіты Бадзіканітэ.**

**Даводзіцца перапрасіць чытачоў за адсутнасць неабходных паясняльных заўваг да публікуемых тэкстаў. Задавальняючае выкананне гэтае справы, амаль невырашальнае для аўтара за межамі Беларусі, патрабавала б нямала дадатковых высілкаў, часу, як і дадатковае газетнае плошчы. Будзем, аднак, спадзявацца кампенсацыі згаданага ўпушчэння ў асобным выданні твораў К.Езавітава, дзеля чаго маглі б высакародна паспаборнічаць паміж сабой беларускія выдаўцы.**

**Тэксты падаюцца з захаваннем стылістычных і арфаграфічных асаблівасцей арыгіналаў.**

**Аляксей КАЎКА.**

*Циркулярно.*
*10 января 1918 г.*
*N 82*

**Председателю Могилевского Белкомитета**
**тов. Кохновичу, Могилев, Виленская, 23.**

В целях упрочения связи необходимо обмениваться всеми протоколами заседания Вашего Комитета и нашего, так как только они могут полно отразить интересы и работу Комитетов. Поэтому военный отдел устанавливает этот порядок, посылая Вам первый протокол 1918 года. Как видите, главное внимание обращено на солидную постановку агитационно-политического отдела, которому и отведено самое крупное количество сил. Решено вести агитацию не только в войсках, но и в деревне, и в городе, даже главным образом в деревне и городе. Так как средств на агитацию нет, то поступайте таким образом: вызывайте людей из частей, разумеется людей способных вести агитацию, и увольняйте их самочинно в отпуск на месяц-полтора. Лучше всего набирать кадры этих людей из частей местного гарнизона, т.к. тогда их можно предварительно распропагандировать.

Деятельность Ваша и Ваших агентов в ближайшее время должна быть направлена в том направлении, чтобы вызвать возможно больше протестов и резолюций с мест. Необходимо это для того, чтобы показать тем, кто сидит в канцеляриях и штабах и ничего, кроме бумаг и чернил, не видит — всю силу национального белорусского движения. До сих пор ни Крыленко, ни Мясников, ни Ленин, ни Троцкий, ни редакции газет не получили материалов, которые бы заставляли их ежедневно чувствовать, что в России, кроме украинцев, татар, великороссов и других, имеются еще и Белорусы.

Вот почему Крыленко и Мясников заявили мне, что они Белорусского движения не видят и не чувствуют.

Заявление это вполне понятно и имеет под собой основание: в то время как другие национальности буквально бомбардировали всех, всех, всех протестами и резолюциями, за это время, когда они кричали на всю Российскую Республику, — мы молчали.

Молчанию этому дожен быть положен конец, мы должны заговорить и закричать все разом, ибо самому существованию Белоруссии грозит смертельная опасность.

Сообщение о нашем разгоне — ложь. Мы были брошены в другое помещение, но перебрались из него в третье и вновь работаем как ни в чем не бывало.

На все насилия и аресты — плюем. Работа остановится лишь тогда, когда нас не будет в М И Н С К Е.

Наш новый адрес: гор. Минск, Полицейская ул., д. № (не чытэльна) кв. 10.

**Председатель** **Рак-Михайловский**
**Заведующий Военным Отделом Езовитов**
**Секретарь** (подпіс нечытэльны)

*Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы, ф. 2209-LXXV, арк. 1,2.*

* * *

Калі ласка, прашу Камісію звяртацца да мяне і іншых беларускіх устаноў на беларускай мове. За паведамленне дзякую. К.Езавітаў. 28.01.1920. — Рэзалюцыя на адносіне (па-руску) да Шэфа Ваенна-Дыпламатычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі.

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 62, воп.1, спр.88, арк.49.*

**ФРАГМЕНТЫ З ЛІСТОЎ К. ЕЗАВІТАВА:**

**Да кс. Адама Станкевіча,**
Рэжыца, 23.02.1921 г.
Высокапаважаны а. Адам!

Не адмовіце ў ласцы паведаміць, ці Вы пасылаеце газету "Крыніца" ксяндзам усіх латгальскіх парахвіяў, у частцы ці зусім не пасылаеце нікому?

Было б вельмі пажадана, каб Вы пасылалі яе ва ўсе парахвіі і асобна для пробашча і вікарнага ксяндза.

Я хутка дам Вам ведама, хто з ксяндзоў тутака цікавіцца рухам [беларускім] і хто да яго ставіцца варожа.

Беларусы каталікі тутака пачалі ўжо прыходзіць да моцнага пераканання, што яны зусім не палякі і што не ў польскасці і не ў Польшчы іх паратунак.

Сцяміўшы гэта, яны пачынаюць цікавіцца рухам.

Вось тутака і будзе патрэбна "Крыніца". Ды і ня толькі адна "Крыніца"!

Сянняка на адбываючымся тутака Латгальскім кангрэсе я гутарыў з сялянамі аб беларускай мове ў набажэнстве. Яны вельмі зацікавіліся, калі пачулі ад мяне, што кніжкі гэтыя ўжо ёсць і вельмі прасілі мяне, каб я ІХ ім паказаў і даў.

Я абяцаў прывезці ў воласць. Вельмі прашу Вас не адмовіць у ласкавай [просьбе] — экземпляраў па 10 усіх кніжак для набажэнства, якія ў Вас ёсць...

Шлю найлепшыя пажаданні. Прашу выбачыць за лаканізм. Увесь час ліяў, як той птах. Бывайце здаровы.

З вялікай пашанай — Кастусёнак.

*Цэнтральны Дзяржаўны архіў Рэспублікі Беларусь (ЦДА РБ), ф.458, воп.1, спр.25, арк. 24,25.*
*(Далей — фонд, вопіс тыя ж, спасылкі даюцца толькі на NN справы і аркушаў. — **А.К.**)*

**Да Максіма Гарэцкага**
27.04.1921, Рыга.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар,

Пасылаю Вам спісак амерыканскіх газэт і іх адрасы, па якіх вельмі прашу абавязкова пасылаць "Нашу Думку" ў абмен: 1) расейскіх — 13, 2) украінскіх — 15, 3) карпацкіх (?) — 7. Уся гэта прэса ўжо аб нас піша і ведае, але я, нажаль, не магу яе сам сыстэматычна інфармаваць.

Раю Вам усе адрасы надрукаваць у тыпаграфіі і камплект з 10 гэтых надрукаваных адрасоў добра захаваць. Не пашкодзіць, калі ўсе адрасы, па якіх Вы пасылаеце "Нашу Думку", Вы перашлеце мне да ведама.

Не адмоўце пасылаць газэту рэдактару газэты "Буковіна".

Гэта мой карэспандэнт і страшна цікавіцца нашымі справамі.

Зводку таго, што піша аб нас амэрыканская расейская прэса на днях пасылаю.

З пашанай Кастусь.

*Спр.25, арк. 27.*

**Да Клаўдыюша Душэўскага**
18.04.1921, Дзвінск.

Даражэнькі Клаўдыюш,

адразу відно, што ты ўжо адной нагой у Амэрыцы, нават напісаў мне адрас гэтак, што мяне ледзь знайшлі.

Сам я адчыніў тутака "Бацькаўшчыну" і мушу паставіць яе на ногі. Заядае безграшоўе, а Власт [В.Ластоўскі] маўчыць і той асыгноўкі, якой я прасіў на справу (здаецца тысячаў пяць марак адначасна) [няма]. Гэтая асыгноўка адкупіла б сябе ў сто разоў. Падробную смету я даў Власту. Праўядзі яе ў габінеці, калі ласка.

Потым маю да цябе дакуку: дай раду, як атрымаць у Вільні падручнікі і літаратуру. Яна тутака гвалт патрэбна. Усё, што я асабіста меў, разышлося. У гэтай справе прымі меры срочныя і зараз жа паведамі мяне. Можа Карабач змог бы прывезці ў Дзвінск? Гэта было б найбольш пажадана.

Пакуль будуць ісці клопаты з вазамі, я буду працаваць тутака...

Костусь.

*Спр.25, арк.7.*

**/Да неўстаноўленай асобы/**
18.04, 1921, Дзвінск.

**Высокапаважаны Міхаіл Сілуанавіч!**

Вельмі прашу не адмовіць дапамагчы мне арганізаваць у Латгаліі беларускую школу. Справа стаіць такім чынам: беларусаў тутака зарэгістравалася больш 50.000 (па латвійскаму перапісу). Усе яны карыстаюцца або расейскай, або польскай школай. Міністэрства прасьветы і земствы ідуць на спатканьне думкам аб утварэнні беларускай школы, але хочуць, каб адчыненьне яе ішло не зьверху, а знізу, на пажаданьне жыхарства.

Я ўжо гутарыў з настаўнікамі. Згаджаюцца, але просяць курсаў, літаратуры і падручнікаў. Каб былі падручнікі, дык некаторыя школы ўжо б перайшлі на іх.

Утварыў тутака культурна-прасветнае таварыства "Бацькаўшчына", у якое ўвайшло шмат вучыцельства.

Вельмі прашу Вас срочна паведаміць, ці не зможаце Вы, ці хто іншы ўзяць на сябе чытаньне беларускіх лекцый на летніх курсах і ці не зможа Карабач або хто іншы прывезці зараз жа літаратуры і падручнікаў.

Пажадана, каб на пачатак нам адчынілі на імя "Бацькаўшчыны" крэдыт? Потым мы кніжкі разпрадамо і грошы вернем.

Шчырае прывітанне ўсім!

Костусь.

П.С. Цікава, што запісваюцца ў Таварыства ("Бацькаўшчына") пераважна праваслаўныя жыхары.

* * *

**Кіраўніку Беларускае дзяржаўнае бібліятэкі**
9 жніўня 1928 году.

**Паважаны Грамадзянін,**

пісьмом ад 4-га ліпеня гэтага году я інфармаваў Вас аб тым, што мною зроблены першыя крокі да арганізацыі пры Латвійскай Дзяржаўнай Бібліятэцы беларускага аддзелу.

Адначасна я прасіў Вас увайсці ў безпасярэднія зносіны з кіраўніком гэтае бібліятэкі аб кнігаабмене, бо я ад яго прынцыповую згоду на кнігаабмен ужо атрымаў. Аб кроках Вашых і кіраўніка Беларускае Кніжнае Палаты я прасіў мяне паведаміць, каб зрабіць справе дапамогу.

**(Заканчэнне будзе).**

## КНІГА ПРА НАШУ РЭСПУБЛІКУ Ў ФРАНЦЫІ

Толькі што ў Парыжы выйшла з друку кніжка пра Беларусь, якая гэтак і называецца — "Беларусь". У ёй польскі гісторык, што жыве ў Францыі, Бруна Дрвескі на 128 старонках знаёміць французскага чытача з нашай Бацькаўшчынай. Кніжка выдадзена ў адным з самых буйных французскіх выдавецтваў вялікім тыражом і напісана ў папулярнай, даходлівай форме.

Першы раздзел прысвечаны агульным звесткам пра Беларусь і беларусаў. Наступныя пяць апавядаюць пра гісторыю нашага краю.

Гэта першая за пасляваенны час кніга пра Беларусь, выдадзеная ў Францыі, і выклікана яе з'яўленне найперш дзяржаўнай незалежнасцю нашай рэспублікі і той новай роляй, якую яна зараз адыгрывае ў Еўропе і ў свеце. Кніга, несумненна, прынясе пэўную карысць у справе азнаямлення французаў з нашым краем. Аднак не ўсё ў ёй напісана, з нашага пункту гледжанчя, бездакорна. Падобныя кнігі, што выходзяць, напрыклад, у ЗША, пішуцца, як правіла, гісторыкамі беларускай эміграцыі, і таму яны значна больш грунтоўныя і аб'ектыўныя. Бруна Дрвеск, напрыклад, сцвярджае, што беларуская мова не мае фактычна этнічных межаў, а паступова "пераходзіць" у польскую ці ўкраінскую, што не адпавядае рэчаіснасці. Далей аўтар кнігі выкладае гісторыю Беларусі з пункту гледжання паляка або літоўца, часам робячы яўныя гістарычныя апіскі і памылкі. Ён нават ні разу не ўжывае назву "Вялікае Княства Літоўскае", я ўжо не кажу пра поўную назву гэтай шматэтнічнай дзяржавы — "Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае", падаючы яе ўвесь час як... "літоўскую дзяржаву". Амаль зусім нічога не сказана ў кнізе пра Беларускую Народную Рэспубліку.

Праўда, ёсць раздзелы, якія напісаны на добрым навуковым узроўні. Такі, напрыклад, раздзел пра пасляваенную гісторыю Беларусі.

Трэба, зразумела, улічваць, што гэта першая кніга пра Беларусь у сучаснай Францыі, дзе пра наш край ведаюць вельмі і вельмі мала. Таму шчыра парадуемся яе выхаду ў свет. Пэўныя звесткі пра наш край французскаму чытачу яна данясе.

**Юрась ЖАЛЕЗКА.**

## АД ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ПАЧЫНАЕЦЦА...

# ПУЦЯВОДНАЯ ЗОРКА БЕЛАРУСАЎ

Запаветнай марай маладой асветніцы была педагагічная праца, адукацыя народа, навучанне простых людзей грамаце, стварэнне вучылішчаў і школ. Нібы ўгадаўшы яе жаданне, полацкі епіскап Ілья, бачачы бязмежную самаахвярнасць маладой манахіні, прапанаваў ёй стварыць недалёка ад Полацка, у вёсцы Сяльцо, жаночы манастыр. У вёсцы знаходзіўся загарадны архіерэйскі (епіскапскі) дом з невялікай драўлянай царквой святога Спаса, якія і павінны былі стаць асновай будучага манастыра. Зразумела, Ефрасіння не магла адмовіцца ад гэтай прапановы і стала ігуменняй жаночага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

У выдатным даследаванні вядомага рускага вучонага В.В.Грыгор'ева "Гістарычны нарыс рускай школы" (1900) адзначаецца, што "Ефрасіння Полацкая,.. арганізаваўшы манастыр, зрабіла навучанне грамаце адным з галоўных абавязкаў манашак". Грамаце абучалі не толькі манахінь, але таксама ўсіх жадаючых свецкіх жанчын. У гэтай справе маладой полацкай ігуменні памагалі такія ж захопленыя і адданыя справе асветы дзяўчаты з княжацкай сям'і, якія ўзялі прыклад з Ефрасінні і пастрыгліся ў манахіні. Гэта была перш за ўсё малодшая сястра Ефрасінні — Градзіслава, якая пры пастрыжэнні ў манахіні атрымала імя Еўдакія, дваюрадная сястра Ефрасінні — Звеніслава, дачка князя Барыса, атрымала імя Еўпраксія, а таксама пляменніцы Ефрасінні, дочкі князя Вячаслава — Кірынія і Вольга, якія атрымалі пры пастрыжэнні імёны Агаф'і і Яўфіміі.

Менавіта прадстаўнікі полацкага княжацкага роду і склалі першы ў гісторыі Беларусі гурток жанчын-асветніц, месцазнаходжаннем якога стаў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр недалёка ад Полацка. Вядома, падзвіжніц асветы было значна больш, але іх імёны да нас не дайшлі.

Падручнікам пры навучанні грамаце служыў у той час "Псалтыр". Па сутнасці гэта быў буквар, пасля вывучэння якога чалавек лічыўся пісьменным, ці, як тады гаварылі, "кніжным чалавекам".

Таму заканамерна і сімвалічна, што праз тры стагоддзі, працягваючы бессмяротныя традыцыі Ефрасінні Полацкай, менавіта з "Псалтыра" пачаў сваю выдавецкую дзейнасць Францыск Скарына, які таксама адыграў вялікую ролю ў пашырэнні пісьменнасці сярод простых людзей, у дэмакратызацыі адукацыі, у асвеце народных мас. Асветніцкі характар гэтай кнігі ярка выяўлены выдаўцом у яго прадмове да "Псалтыра", дзе адзначаецца, што яе прызначэнне — перш за ўсё даць "детям малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утвержение". Усё гэта дае падставы разглядаць беларускага першадрукара як прамога і непасрэднага прадаўжальніка вялікай справы Ефрасінні Полацкай.

Несумненная заслуга полацкіх манашак-асветніц не толькі ў навучанні грамаце, у адкрыцці першых на нашай зямлі народных вучылішчаў, але таксама ў збіранні, перапісванні і распаўсюджванні кніг, заснаванні бібліятэк, развіцці традыцый беларускага летапісання. Але аб гэтым баку іх дзейнасці мы, на жаль, нічога не ведаем.

Заканчэнне.
Пачатак у № 43.

З імем полацкай асветніцы звязана таксама будаўніцтва храмаў на беларускай зямлі. У прыватнасці, стаўшы ігуменняй новазаснаванага манастыра, Ефрасіння Полацкая вырашыла замест старой драўлянай царквы ўзвесці новую, каменную. Для рэалізацыі гэтай задачы быў запрошаны полацкі дойлід Іван. Будаўніцтва царквы заняло роўна трыццаць тыдняў. Будынак царквы, які захаваўся да нашых дзён, уражвае сваімі прапорцыямі, вытанчанасцю і прыгажосцю. Адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў гісторыі Полацкага княства, маскоўскі вучоны Л.Аляксееў заўважыў, што "па дасканаласці сваёй мастацкай кампазіцыі, па трываласці разлічаных канструкцый Спаскі храм Ефрасіннеўскага манастыра — вяршыня архітэктурнай думкі Полацкай зямлі і адзін з выдатных помнікаў архітэктуры дамангольскай Русі. Ён зроблены адным з самых таленавітых рускіх (больш правільна — беларускіх. — **В.Ш.**) дойлідаў — полацкім архітэктарам Іванам".

З тонкім мастацкім густам быў афармлены інтэр'ер царквы. Сцены яе ўпрыгожвалі выдатныя фрэскі, напісаныя невядомымі полацкімі мастакамі XII стагоддзя. Гэтыя шэдэўры, што захаваліся да нашых дзён, робяць надзвычай моцнае ўражанне на сучасных наведвальнікаў, пра што можна меркаваць па словах Уладзіміра Караткевіча: "Калі сонца праз невялікія вокны трапляе ўнутр сабора, гэтыя фрэскі загараюцца бляклай чырванню і ржавым золатам. Нібы праз залаціста-карычневую, празрыстую ваду лясных рэк глядзяць на вас нечалавеча вялікія задумлівыя вочы вашых продкаў". Вучоныя лічаць, што адна з гэтых надзвычайных па прыгажосці і вытанчанасці фрэсак вельмі напамінае аблічча самой Ефрасінні Полацкай. Сярод адлюстраванняў, акрамя мяркуемага партрэта Ефрасінні Полацкай, вылучаюцца вобразы грэчаскіх айцоў царквы — Іаана Златауста і Васілія Вялікага. Акрамя мастацкай каштоўнасці, яны даюць дадатковы матэрыял для характарыстыкі поглядаў самой Ефрасінні Полацкай. У прыватнасці, Васілій Вялікі лічыў магчымым выкарыстаць у інтарэсах хрысціянства антычную культурную спадчыну. У сваіх працах ён шмат цытаваў антычных філосафаў. Творы Васілія Вялікага, перакладзеныя на славянскую мову, служылі крыніцай для знаёмства з антычнымі мысліцелямі.

Іаан Златауст (IV — пачатак V стагоддзяў) пастаянна выступаў з крытыкай заганаў вышэйшых пластоў сучаснага яму грамадства — непамернай раскошы візантыйскага імператарскага двара, амаральнасці вышэйшага духавенства і г.д. Можа быць, менавіта таму Васілій Вялікі і Іаан Златауст асабліва імпанавалі Ефрасінні Полацкай.

Вялікую каштоўнасць мела ікона Багародзіцы, што знаходзілася ў Спаскай царкве, напісаная, па паданню, евангелістам Лукой. Гісторыя яе набыцця Ефрасінняй Полацкай, якая мела тонкі эстэтычны густ, такая: карыстаючыся сваяцтвам з візантыйскім імператарскім домам, яна адправіла свайго пасланца Міхаіла да імператара Мануіла Комніна і канстанцінопальскага патрыярха Лукі Хрызаверга з багатымі дарамі і адначасова з просьбай прысланць у яе манастыр адну з трох ікон Багародзіцы, напісаных евангелістам Лукой. Гэтыя іконы знаходзіліся ў розных гарадах — Канстанцінопалі, Іерусаліме і Эфесе. Імператар і патрыярх прыслалі Ефрасінні ікону Багародзіцы з горада Эфеса, якая называлася Адзігітрыяй (г.зн. Пуцяводнай). Цікава склаўся лёс гэтай іконы. Пасля смерці Ефрасінні Полацкай яна ў 1239 годзе з нагоды шлюбу дачкі полацкага князя Брачыслава з князем Аляксандрам Неўскім была перанесена з Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў горад Тарапец Пскоўскай губерні ў Васкрасенскую царкву, дзе праходзіла вянчанне маладых. Цяпер гэтая ікона знаходзіцца ў Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу.

Вялікую мастацкую каштоўнасць меў таксама крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены ў 1161 годзе па яе заказу славутым полацкім майстрам Лазарам Богшам і падараваны ёю навечна Спаскай царкве.

Гэта была мошчазахавальніца, дзе ў асобых паглыбленнях былі змешчаны прадметы хрысціянскага пакланення (кавалачак крыжа, на якім распялі Ісуса Хрыста, крупінкі каменя ад труны Хрыстовай, труны Багародзіцы і г.д.), якія Ефрасіння Полацкая атрымала ў якасці дару для свайго манастыра са святынь Канстанцінопаля і Іерусаліма.

Крыж быў зроблены з кіпарысавага дрэва і меў шасціканцовую форму. Па вонкавым і адваротным баках яго пакрывалі залатыя, а па баках — сярэбраныя пласціны. Залатыя пласціны былі ўпрыгожаны найтанчэйшымі эмалевымі лікамі святых, арнаментам, каштоўнымі камянямі, а па перыметру крыжа — прыгожай ніткай буйнога жэмчугу. Па баках крыжа ішоў шматслоўны надпіс, свайго роду цэлая грамата, у якой змяшчалася дата вырабу (1161 год), імя заказчыцы (Ефрасінні Полацкай) і страшнае праклящце таму, хто асмеліцца пасквапіцца на гэтую святыню, вынесці крыж са Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра: "Да не изнесется из монастыря никогда же... Аще кто ослушается и знесеть (крест) из монастыря, да не будет ему помощник честный крест ни в сей век, ни в будущем".

З тыльнага боку крыжа дробнымі літарамі было выразана імя Лазара Богшы — майстра, які зрабіў крыж, а таксама сума, затрачаная на яго выраб, — 140 грыўняў! Менавіта ў такую суму абышоўся ён Ефрасінні Полацкай. Па тых часах гэта былі вялікія грошы.

Трагічна склаўся лёс гэтай унікальнай нацыянальнай рэліквіі. Праляжаўшы сто гадоў у Полацку ў Спаскай царкве, ён быў гвалтоўна перанесены ў Смаленск, а адтуль у Маскву. Але ў 1563 годзе Іван Грозны пры асадзе Полацка пакляўся вярнуць крыж на ранейшае месца, калі возьме горад. Авалодаўшы Полацкам, ён стрымаў сваё слова. Аднак неўзабаве палачане вымушаны былі схаваць крыж у нішы Сафійскага сабора, дзе ён праляжаў да адмены Брэсцкай царкоўнай уніі ў 1839 годзе.

У 1840 годзе полацкі архіепіскап Васілій вазіў крыж спачатку ў Маскву, а затым у Пецярбург, дзе ў царкве Зімняга палаца паказваў імператару Расіі Мікалаю І.

Да 1928 года крыж знаходзіўся ў Полацку. Затым быў перададзены Беларускаму дзяржаўнаму музею ў Мінску, адкуль трапіў у Магілёў, дзе ў самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны (1941 год) бясследна знік. Пра лёс яго да сёння нічога невядома. Ці закончылася больш чым 800-гадовая гісторыя нашай нацыянальнай унікальнай рэліквіі? Адказ на гэтае пытанне ўпарта шукаюць вучоныя. Пошукамі крыжа займаюцца таксама супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Завяршыўшы будаўніцтва Спаскай царквы, Ефрасіння прымаецца за ўзвядзенне новага храма — царквы святой Багародзіцы, каля якой узнік мужчынскі манастыр. Магчыма, па яе задуме былі ўзведзены і іншыя выдатныя будынкі. Аднак ад іх да нашых дзён не захавалася нават следу...

Месцам пастаяннага знаходжання Ефрасінні Полацкай стала Спаская царква, будаўніцтва якой яна лічыла боганатхнёнай справай. У "Жыціі" расказваецца, што архітэктар Іван, які кіраваў пабудовай царквы, кожную ноч пад раніцу чуў голас: "Іван, уставай і ідзі на будаўніцтва Спаскай царквы". Думаючы, што яго будзяць па загаду Ефрасінні, ён прыйшоў неяк да яе і спытаў, чаму яна панукае яго да работы, да якой ён ставіцца з вялікім стараннем і адказнасцю. Ефрасіння, зразумеўшы ў чым справа, адказала: "Хоць гэта і не я пасылаю будзіць цябе і прымушаць да работы, але паслухайся гэтага голасу і рабі тое, што ён табе гаворыць, бо тое, што ты робіш, — справа святая".

У гэтых словах змяшчалася пэўная доля праўды, таму што царква, пабудаваная ў сярэдзіне XII стагоддзя наперакор усім гістарычным выпрабаванням, захавалася да нашых дзён, перажыўшы ўсе буры і ліхалецці. Яна з'яўляецца самым старым помнікам нацыянальнай архітэктуры на беларускай зямлі, у якім з найбольшай паўнатой знайшоў адлюстраванне самабытны характар беларускага народа і які паслужыў узорам для стварэння падобных збудаванняў на нашых землях. Гэта таксама адзіны матэрыяльны помнік, звязаны з жыццём і дзейнасцю Ефрасінні Полацкай, які дайшоў да нашых дзён.

Менавіта тут на хорах Спаскай царквы знаходзілася келля нашай выдатнай асветніцы, дзе ў пастаяннай працы і малітвах прайшлі доўгія гады яе выдатнага жыцця, кіруючай думкай якой была думка пра дабрабыт і працвітанне роднай зямлі.

На старасці год Ефрасіння Полацкая вырашыла здзейсніць паломніцтва ў Канстанцінопаль і Іерусалім. У час знаходжання ў Іерусаліме вясной 1173 года яна занядужала і пасля непрацяглай хваробы памерла.

Пасля смерці яе святасць прызналі як руская праваслаўная, так і каталіцкая царква. Аднак значна раней за іх гэта зрабілі палачане. Як толькі ў Полацку даведаліся пра смерць Ефрасінні, жыхары горада, не чакаючы афіцыйнай կанізацыі, прызналі яе святой і пачалі святкаваць дзень яе памяці 23 мая (у гэты дзень памерла Ефрасіння Полацкая).

У гэтым факце знайшла выяўленне ўсеагульная любоў да вялікай асветніцы, народная ацэнка яе гістарычнай працы.

Сапраўды, сваёй падзвіжніцкай культурна-асветніцкай дзейнасцю — стварэннем бібліятэк, перапісваннем кніг, адкрыццём школ, будаўніцтвам цэркваў і манастыроў, якія станавіліся важнымі ачагамі асветы на беларускай зямлі, — Ефрасіння Полацкая заклала фундамент беларускай нацыянальнай культуры, указала на важную ролю асветы ў жыцці народа і падала выключны прыклад сапраўды бескарыслівага служэння народу на гэтай ніве. Шляхам Ефрасінні Полацкай пайшлі іншыя выдатныя сыны беларускай зямлі — Францыск Скарына, Леў Сапега, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Сімяон Полацкі, Кастусь Каліноўскі, браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі. Таму яна і стала адной з выдатных гераінь беларускай гісторыі.

Народная любоў да Ефрасінні Полацкай на працягу стагоддзяў знаходзіла сваё выяўленне ў самых розных формах.

Веруючыя, для якіх яна была прыкладам бескарыслівасці, дабрыні і любові да бліжняга, пастаянна паміналі яе ў малітвах; даследчыкі, для якіх яна была сімвалам падзвіжніцтва ў навуцы, прысвячалі ёй свае публікацыі; паэты, пісьменнікі, мастакі, для якіх яна з'яўляецца крыніцай творчага натхнення, прысвячаюць ёй вершы, аповесці, карціны. (Між іншым, яе вобраз стварыў вялікі рускі мастак Віктар Васняцоў).

Заканамерны інтарэс да творчасці і жыцця Ефрасінні Полацкай у суверэннай Беларусі. Сімвалічна, што першая марка Рэспублікі Беларусь прысвечана гістарычнай рэліквіі беларускага народа — крыжу Ефрасінні Полацкай, які сваёй формай нагадвае крыж на шчыце ў рыцара "Пагоні" — дзяржаўным гербе Беларусі.

Не выпадкова Першы з'езд беларусаў свету абраў сваёй эмблемай постаць Ефрасінні Полацкай. Але фігура і дзейнасць нашай вялікай асветніцы могуць быць сімвалам не толькі гэтай важнай падзеі нашай гісторыі, а і ўсяго працэсу адраджэння Беларусі. Ефрасіння Полацкая — гэта пуцяводная зорка для ўсіх, хто хацеў бы ажыццявіць ідэал, які выпрацавала не адно пакаленне прыхільнікаў беларускай ідэі, — суверэнная, свабодная, квітнеючая дзяржава.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

## ВЕРШЫ, НАПІСАНЫЯ Ў НЯВОЛІ

# НАРОД І ЯГО ПАЭТ

Пазваніў Сяргей Новік-Пяюн: "Дараженькі, выйшаў нарэшце мой зборнічак, дачакаўся кніжкі яшчэ пры жыцці. Я тут вам падпісаў на памяць... Можа б, прыехалі?.." Як не паехаць, калі такая навіна! У кватэры-адзіночцы, дзе журботна цякуць дні, месяцы і гады хворага паэта, — маленькія бандэрролькі на канапе: свае "Песні з-за кратаў" Сяргей Міхайлавіч рассылае па пошце сябрам, блізкім, замілаваным яго талентам.

Трымаю ў руках зборнічак, паспешліва гартаю старонкі, позірк выхоплівае паасобныя радкі і строфы, што нараджаліся ў турмах, ссылках, канцлагерах і якія толькі потым, выйшаўшы на волю, запісаў з памяці паэт.

А вось і першыя водгукі на кніжку, першая ацэнка прачытанага.

"Дарагі Сяргей Міхайлавіч!

Дзякую за памяць і зборнік Вашых цікавых вершаў "Песні з-за кратаў". Вершы напісаны шчыра і проста, без модных выкрутасаў. Яны не выветрываюцца, як пух, з памяці. І да іх мы часта вяртаемся ў трывожныя хвіліны жыцця можа таму, каб сказаць сабе: "Бачыш, праз якое пекла прайшлі наш народ і яго паэт і — не здаліся. Максім Танк".

Прачытаў Танкаў ліст і падумаў: "Вось табе і рэцэнзія, кароткая, ёмістая і глыбокая па думцы". Не сталі мы ў рэдакцыі шукаць рэцэнзента на зборнік Сяргея Міхайлавіча, рашылі вось так, папярэдзіўшы радкамі Максіма Танка, даць некалькі невядомых яшчэ чытачу вершаў з новага зборніка С. Новіка-Пеюна "Песні з-за кратаў".

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**




**Сяргей НОВІК-ПЯЮН**

### О, БЕЛАРУСЬ, МОЙ РОДНЫ КРАЙ!

**О, Беларусь, мой родны край!**
**Цябе ўсім сэрцам я кахаю,**
**На ніякі цудоўны рай**
**Цябе ніколі не змяняю!**

**За мураванаю сцяной**
**Халоднай жудаснай вязніцы**
**Край беларускі родны мой**
**Штоночы ў светлых снах мне сніцца.**

**Калі ж апошні прыйдзе час**
**І сэрца біцца перастане,**
**З сабой вазьму ў магілу ўраз**
**Да Беларусі я каханне.**

**А тая іскра, што калісь**
**Я між свайго народу кінуў,**
**Узляціць маланкаю увысь,**
**Асвеціць родную краіну.**

**Зямлі крывіцкай гаспадар —**
**Народ сабе здабудзе волю,**
**І маіх песняў — сэрца дар —**
**Ён не забудзе аніколі.**

**Іх перакажа ўнуку дзед,**
**Іх перакажа бацька сыну,**
**Каб знялі, як кахаў паэт**
**Сваю крывіцкую краіну.**

**О, Беларусь, мой родны край!**
**Цябе ўсім сэрцам я кахаю,**
**На ніякі цудоўны рай**
**Цябе ніколі не змяняю!**

*г. Слонім,*
*польскі астрог.*
*1939 г.*

### МНЕ СУМНА

**Мне сумна. На захадзе сонца гарыць**
**Магутным чырвоным пажарам,**
**А ночка стараецца неба накрыць**
**Бясконцым блакітным штандарам.**

**Мне дня, што у вечнасць сыходзіць,**
**шкада, —**
**Не вернецца ўжо ён ніколі!**
**Зрабіў для народа замала йшчэ я, —**
**Хацеў бы, аднак, зрабіць болей.**

**Каб гэтак, здаецца, стварыць цуд я мог:**
**Вярнуцца б дзень прошлы прымусіў**
**І нейк скарыстаў бы належна яго**
**Для любай маёй Беларусі.**

**Але не у моцы маёй гэты чын!.. —**
**За днямі ўсцяж дні прамінаюць...**
**Як быццам вугольчыкі згаслых лучын,**
**Так зоркі на небе міргаюць.**

**Мне сумна, што сонца зайшло й**
**не гарыць.**
**Туга ў сэрцы цісне цяжарам... —**
**А ночка паспела ўсё неба накрыць**
**Сваім цёмна-сінім штандарам.**

*г. Слонім,*
*гітлераўская акупацыя.*
*29.3.1943 г.*

### ТУГА РВЕ ДУШУ МНЕ

**Туга рве рушу мне, як воўк той галодны,**
**А сэрца баліць і баліць.**
**Да роднай сям'і у далёкі край родны**
**За думкаю думка ляціць.**

**Напэўна, там слёзы па мне праліваюць,**
**Не ведаюць, дзе я цяпер.**
**Вязуць мяне ўдаль, а куды — сам не знаю,**
**Бы ў клетцы зачынены звер.**

**Даюць мне кавалачак горкага хлеба.**
**Дзве місачкі ў дзень баланды**
**[Памерці не можна, пражыць, аднак, трэба]**
**І кубак халоднай вады.**

**Мінаю чужыя і месты і вёскі,**
**Што ў горах, далінах ляглі,**
**Мінаю сады, лясы, рэкі, палоскі**
**Чужой незнаёмай зямлі.**

**Не дыхаюць вольна стамлёныя грудзі,**
**Не цешыць пах кветак чужых,**
**Чужыя вакол незнаёмыя людзі**
**Не чуюць цярпенняў маіх.**

**Аднойчы над ранкам цягнік затрымаўся, —**
**Я сніў аб радзіме маёй, —**
**І чуў, як чароўна ў гаі заліваўся**
**Над рэчкай не наш салавей.**

**У адно толькі веру я моцна, бясконца:**
**Родную ўбачу зару,**
**Дзе свеціць маё беларускае сонца,**
**Дзе маці мая — Беларусь!**

*На этапе ў цягніку НКУС.*
*1945 г.*

### ЖЫЦЦЁ ПРАМІНАЕ

**Жыццё прамінае без шчасця і долі**
**За мурам астрожным пад звон кайданоў,**
**А мы ўсё чакаем заветнае волі,**
**Каб сонейкам родным нацешыцца зноў.**

**Плывуць дні за днямі, як шэрыя хвалі.**
**Нам сніцца радзімага неба блакіт.**
**Пад сопкай мы многа сяброў пахавалі.**
**Тут снег нашай цёплай крывёю заліт.**

**Праз краты нам свецяць**
**паўночныя зоры,**
**Бы шлюць прывітанне ад роднай зямлі.**
**Сярэбраны месяц схаваўся за горы,**
**І чорныя цені вакол залеглі.**

**Вітанне прымі, Беларусь дарагая!**
**Сыны твае думкамі вечна з табой,**
**Свабоды сцяг мужна і моцна трымаюць,**
**Гатовы за волю йсці смела на бой.**

**За праўду, за шчасце, за лепшую долю,**
**Каб век красаваў беларускі народ,**
**Рабамі ў чужынцаў былі мы даволі,**
**Сказаць свае слова настаў наш чарод.**

*Якуція,*
*Берлаг Аляскітовы, руднік НКУС.*
*1952 г.*

## ДАР МАСТАКОЎ ЗАМЕЖЖА

# АДБУДАВАЦЬ ХРАМ КУЛЬТУРЫ

Усё лета было холадна і дажджліва. Не менш дажджліва і яшчэ больш холадна было ў верасні. І вось раптам прырода зміласцівілася і падаравала нам некалькі незвычайна цёплых дзянькоў у кастрычніку. Я ішла ў Дзяржаўны мастацкі музей і думала, што ў нашым жыцці, як і ў прыродзе, часам усё непрадказальна: тое, што пазаўчора здавалася неверагодным, учора — немагчымым, сёння ўжо становіцца нават звычайным. І гэта добра, што вось такім звычайным робяцца выставы мастакоў беларускага замежжа тут, у Беларусі, на іх Бацькаўшчыне. Добра, што гэта не гучыць больш сенсацыяй. Становіцца нармалёвым тое, што прыехаць сюды яны могуць, калі пажадаюць, наладзіць выставу або, як гэтым разам, проста падараваць творы свайму народу. Вось менавіта такая прэзентацыя і адбылася ў цудоўны восеньскі дзень. Усяго 16 твораў было перададзена ў дар музею ад беларускіх мастакоў, якія жывуць у Амерыцы: Тамары Стагановіч, Надзеі Кудасавай, Ірэны Рагалевіч-Дутко, Янкі Салавянюка, а таксама Галіны Русак (яна прэзентавала свае творы трохі раней) і ад мінскага мастака Сяргея Крыштаповіча, які меў гонар быць даверанай асобай вышэйназваных мастакоў.

"Адбываецца будаўніцтва новага храма беларускай культуры", — сказаў ён, прэзентуючы карціны. — Яшчэ толькі першыя камяні закладваюцца ў яго падмурак. Але я перакананы, што да гэтых мастакоў далучыцца шмат іншых і мы адбудуем свой храм..." Дырэктар музея спадар Юры Карачун запэўніў прысутных у тым, што будзе зроблена ўсё магчымае, каб у хуткім часе пад экспазіцыю беларускіх мастакоў як з далёкага, так і блізкага замежжа была адведзена асобная зала.

Сапраўды, ніхто не ведае, як уплывае жаданне або мара творцы на развіццё падзей. Вельмі своеасаблівым і цікавым падаецца тут трыпціх Тамары Стагановіч "Любоў, Вера, Надзея". Напісаны яшчэ ў 1987 годзе, ён адлюстроўвае мару і надзею мастака, кожнага сумленнага беларуса на незалежнасць. Гэта падарунак беларускаму народу ад усяго роду Стагановічаў і ад бацькі Тамары — Аляксандра Стагановіча, былога пасла Беларусі ў Амерыцы, які шчыра працаваў на незалежнасць Беларусі, жывучы ў эміграцыі, і які так і не дачакаўся гэтага светлага дня.



**Злата свеціць сонца.**
**Хутка бяжыць час.**
**Продкі з-пад нябесся**
**Сілай і здароўем**
**надзяляюць нас.**

**Мы іх моцна любім,**
**Помнім і шануем**
**І душой сваею лётаем**
**да іх.**

**Мы дзядоў не бачым,**
**Але ж прыдзе час,**
**Калі іх убачым,**
**Як яны ўсіх нас.**

Вось такі верш напісаў і прачытаў на заканчэнне прэзентацыі малодшы Крыштаповіч — дзесяцігадовы Антось. А гэта азначае, што сувязь пакаленняў не страчана. Жыццё працягваецца, і прыходзяць новыя, зусім маладыя людзі, якія ўзвядуць сцены і адбудуюць храм.

А пакуль што глядзяць на нас са сцен музея "Маці Божая Жыровіцкая", "Кірыла Тураўскі", "Прападобная Ефрасіння" Янкі Салавянюка, "Надзея" Рагалевіч-Дутко і квітнеюць "Макі" Галіны Русак і "Ружы" Надзеі Кудасавай. У кожным творы крупінка жыцця мастака, іх светапогляд, іх душа. Але ёсць нешта, што аб'ядноўвае карціны, — гэта іх Вера ў свой народ, Надзея на яго лепшую будучыню, Любоў да роднай зямлі, да Беларусі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: работа Т. СТАГАНОВІЧ трыпціх "Любоў, Вера, Надзея".**

ПРЭМ'ЕРЫ

# СЛОНІМСКІЯ "ПРЫМАКІ"



Свой чацвёрты тэатральны сезон Слонімскі беларускі драматычны тэатр пачаў з прэм'еры новага спектакля па п'есе Янкі Купалы "Прымакі". Паставіў спектакль заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч.

Гэта яго трэцяе вяртанне да купалаўскай драматургіі. Яшчэ ў 1968 і 1981 гадах, калі ў Слоніме быў народны тэатр, рэжысёр М.Варвашэвіч паставіў славутую "Паўлінку". І вось цяпер — "Прымакі".

Гэты сцэнічны жарт шырока вядомы сярод аматараў тэатральнага мастацтва. У пастаноўцы слонімцаў ён набыў новае, свежае ўвасабленне, напоўненае дыханнем сучаснасці. Спектакль багаты на народныя песні і танцы. Добра адчуваюцца беражлівыя адносіны пастаноўшчыка да тэксту твора, сучаснае прачытанне п'есы, акцёрскае стварэнне вобразаў — усё гэта ўзнімае настрой і радуе першых гледачоў Слоніма.

У галоўных ролях заняты артысты В.Багушэвіч, С.Бачкоў, Т.Натарава, В.Сямёнава, І.Ерш, У. Навумік, В.Сявец, В.Бандарук.

Дарэчы, перад самай прэм'ерай рашэннем сесіі Слонімскага гарсавета вернута гістарычная назва адной з вуліц горада, на якой у XVIII стагоддзі знаходзіўся славуты на ўсю Еўропу тэатр Агінскага. Цяпер вуліца Энгельса, як і дзвесце гадоў назад, стала зноў называцца Опернай вуліцай.

Сяргей ЧЫГРЫН.

На здымку: сцэна са спектакля "Прымакі".

Фота В. ВАЛАДАШЧУКА.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар — на газету 63854 (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**У прадпрыемствах "Саюздруку" і паштовых аддзяленнях ідзе падпіска на "Голас Радзімы" на першы квартал 1994 года. Падпісная цана на тры месяцы на тэрыторыі Беларусі — 150 рублёў.**

"100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ"

# ТЭНДЭНЦЫЯ ПРАЎДЫ

*Летам з'явілася на прылаўках кнігарняў і ўмомант была раскуплена папулярна-асветніцкая кніга "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі". Матэрыял у ёй падаецца ў форме пытанняў і адказаў, і найбольш цікавыя з іх рэдакцыя збіраецца друкаваць на старонках "Голасу Радзімы". Выданне гэта нетрадыцыйнае, бо вялікі калектыў аўтараў — навукоўцаў розных накірункаў імкнуўся, як сказана ў прадмове, паказаць праўдзівую гісторыю, з гледзішча інтарэсаў Беларусі даць, нарэшце, народу магчымасць паглядзець на мінуўшчыну не чужымі, да чаго нас доўга прывучалі, а сваімі вачыма.*

*Прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з адным са складальнікаў выдання Іванам САВЕРЧАНКАМ, які расказвае, як кніга стваралася, якімі прынцыпамі кіраваліся аўтары, выкладаючы ў большасці выпадкаў зусім новыя, нетрадыцыйныя погляды на, здавалася б, даўно вядомыя факты айчыннай гісторыі.*

**— Іван Васільевіч, "100 пытанняў і адказаў..." падручнік ці папулярнае выданне! На каго кніга разлічана!**

— На сярэднестатыстычнага беларуса. Больш за ўсё, канешне, на моладзь, якая хоча ведаць сваю гісторыю, зразумець сваё месца ў свеце, кім мы былі і як сталася, што дайшлі да такога стану, што самі амаль паверылі ў сваю другаснасць, у сваю ніжэйшасць.

**— Калі ўзнікла ідэя такога выдання!**

— Даўно, толькі ажыццявіць было няпроста. Але выспявала ідэя такой кніжкі ў многіх навукоўцаў, бо калі мы звярталіся з прапановай прыняць удзел у рабоце, большасць ахвотна згаджаліся, гаварылі, што даўно думалі штосьці падобнае зрабіць.

**— Чаму была абрана форма пытанняў і адказаў!**

— Такая форма больш даходлівая, здаецца нам. Навуковыя фармулёўкі горш запамінаюцца, часам наогул цяжкаватыя для разумення. Канкрэтнае пытанне і адказ падаліся нам больш аргументаванымі, пераканаўчымі, доказнымі.

**— Летам выйшаў новы падручнік па гісторыі Беларусі. Ці няма разыходжання ў поглядзе на адны і тыя ж гістарычныя падзеі, што разглядаюцца ў падручніку і ў "100 пытаннях..."!**

— Ідэальная мадэль, ідэальная сітуацыя, калі з'яўляюцца дзесяткі розных падручнікаў, напісаны дзесяткі работ розных аўтараў, бо кожны з іх прыўносіць сваю канцэпцыю, адстойвае свой погляд на пэўную падзею, асобу і яе ролю ў гісторыі. Таму думаю, што наша кніга — крок наперад. Адзін чалавек не можа быць дасведчаным абсалютна ва ўсім. Кнігу стварылі 36 аўтараў, кожны спецыяліст на сваёй дзялянцы вывучаў менавіта сваё пытанне, пісаў манаграфіі, артыкулы па пэўнай праблеме. Гэта акалічнасць дазволіла стварыць кнігу, на парадак вышэйшую за існаваўшыя да яе. У ёй няма выпадковых сказаў, нават выпадковых слоў, прыкладаў. Усё дзесяткі разоў вывяралася, абдумвалася і абгрунтоўвалася.

**— Якія моманты беларускай гісторыі асвятляюцца ў кніжцы з прынцыпова новых пазіцый!**

— У "100 пытаннях..." наогул якасна новае асэнсаванне нашай гісторыі з гледзішча інтарэсаў Беларусі, таму наватарскія тэндэнцыі прысутнічаюць амаль у кожным артыкуле. Як прыклад можна назваць чацвёртае пытанне: якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці? Тут новае канцэптуальнае палажэнне сфармулявана літаральна 2—3 фразамі. Сутнасць яго ў тым, што Полацкае, Тураўскае, Смаленскае княствы — гэта не "части единого древнерусского государства", а першыя беларускія дзяржавы.

У кніжцы дадзена новае тлумачэнне сутнасці Вялікага Княства Літоўскага. Мы ўпершыню гаворым, што ў часы Альгерда і Вітаўта яно мела рысы імперыі, калі межы гаспадарства сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, а пад пратэктаратам яго знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

Мы лічым тэрміны Беларусь і Літва ў гістарычным сэнсе сінонімамі і стаім за тое, каб сёння наш афіцыйны назоў быў Беларусь-Літва, а нашым паўночна-заходнім суседзям варта было б вярнуцца да паняцця Жамойць.

Праводзім мы таксама тэзіс, што ўсе канфесіі, якія існуюць на Беларусі, нашы нацыянальныя рэлігіі мірна суіснавалі з даўніх часоў. Аднак поліканфесійнасць выкарыстоўвалася суседнімі дзяржавамі ў іх экспансіяністскіх мэтах. На жаль, рэцыдывы такой палітыкі мы бачым і сёння. Рэлігійныя канфесіі не сталі пакуль што дзейсным сродкам кансалідацыі беларускага народа.

**— А што не задавальняе вас як аднаго са складальнікаў гэтай кнігі!**

— Хапае і хібаў, канешне. Я адзначаў, што кнігу ствараў вялікі калектыў аўтараў, і ўсё ж шкада, што ў рабоце не прымалі ўдзел такія навукоўцы, як У. Конан, В. Скалабан, У. Голубеў, іншыя.

Мала ўвагі ўдзелена беларускай дыпламатыі сярэдневечча, хоць гэта вельмі важны аспект беларускай гісторыі і ёсць безліч матэрыялу. Міністэрству замежных спраў варта было б ініцыяваць падобную працу, каб былі напісаны хаця б нарысы пра буйнейшых беларускіх дыпламатаў.

**— Кніжка разышлася, і вы, мусіць, маеце на яе водгукі!**

— Маем самыя розныя водгукі і адсюль, і з-за мяжы — з Літвы, з Польшчы. "Ну беларусы, што яны робяць?!" — даводзілася чуць з Літвы. Не з усімі нашымі палажэннямі згодны палякі.

**— Дык і беларусы не заўсёды з вамі згодныя. Многія гавораць, навошта нам новая, прыдуманая гісторыя.**

— Не, прыдуманага ў кніжцы нічога няма, толькі факты, толькі дакументы.

**— Сотае пытанне гучыць так: "Якія гістарычныя даты павінны памятаць і шанаваць беларусы!" Сярод шасці дат няма 3 ліпеня, Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Чаму гэту дату вы не лічыце святам!**

— 200 гадоў беларусы былі ў няволі, не мелі магчымасці праводзіць ні сваю знешнюю, ні ўнутраную палітыку. БНР у 1918 годзе, на жаль, праіснавала нядоўга, БССР была марыянеткавай дзяржавай. У другой сусветнай вайне беларусы былі трэцяй сілай, а калі народ у барацьбе з'яўляецца трэцяй сілай, ён абараняе не свае інтарэсы, можа ваяваць на любым баку і з'яўляецца проста ахвярай гэтай вайны.

**— Але каб Беларусь засталася пад гітлераўскай акупацыяй, ці было б лепш яе народу!**

— Гісторыя ўмоўнага ладу не церпіць. Хаця я, канешне, думаю, што лепш бы нам не было. Аднак і біць у фанфары не выпадае. Мы былі ўкрыжаваны і тымі, і другімі. Таму вызваленне прыйшло ілюзорнае, яго не магла даць ні тая, ні іншая сістэма. Адзначаць можна заканчэнне другой сусветнай вайны, стварыць дзяржаўны камітэт ахвяр мінулай вайны, а не камітэт па святкванні Дня вызвалення. Вось такія мае разважанні.

**— І ўсё ж кніжка часам можа здацца тэндэнцыйнай...**

— Так. Гэта тэндэнцыя шукаць ісціну, дакопвацца да праўды. Другая тэндэнцыя — акцэнтаваць увагу чытачоў на найгалоўнейшых момантах беларускай гісторыі. Калі ж гаварыць пра нейкую іншую зададзенасць — то гэта адказ тым, хто лічыць, што Беларусі не існуе, нацыянальнай мовы яна не мае, беларускай дзяржаўнасці ніколі не існавала. Мы імкнуліся паказаць праўдзівую гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, абудзіць нацыянальную свядомасць народа, каб ён пачуўся сапраўды свабодным і незалежным.

Гутарку вяла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**
**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**
**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**



"100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ"

# ЦІ БЫЎ СТАРАЖЫТНАРУСКІ НАРОД?

Такога народа не было. Яго прыдумалі расейскія гісторыкі. Да тэрмінаў "древнерусский народ", "единый русский народ" яны звярталіся кожнага разу, калі ўзнікала патрэба апраўдаць імперскую палітыку Масквы, што імкнулася ўсякімі шляхамі давесці свае нібыта гістарычнае права на Беларусь і Украіну.

У мінулыя стагоддзі, апраўдваючы экспансію і панаванне над беларусамі і ўкраінцамі, яны заўзята прапагандавалі канцэпцыю існавання "трех племен единого русского народа — великорусов, малоросов и белоруссов".

У савецкія часы, калі беларускі і ўкраінскі народы юрыдычна набылі сваю дзяржаўнасць, гэтая канцэпцыя была прыстасавана да новых абставінаў. Яна трансфармавалася ў тэзіс пра існаванне "древнерусской народности как колыбели трех братских народов", якія неўзабаве мусілі, паводле камуністычнай дактрыны, зліцца ў "новую общность", што, па сутнасці, азначала асіміляцыю.

А што ж было ўзапраўды?

Калісьці, з VII—VI стагоддзяў да Нараджэння Хрыстова, землі Усходняй Еўропы былі заселены рознымі народамі: на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі балты, Украіны — скіфа-сарматы, Расеі (ад Каспія па Волзе да Карэліі) — вугра-фіны.

У VI—VII стагоддзях па Нараджэнні Хрыстовым на гэтыя абшары са сваёй прарадзімы ў Вісла-Одэрскім міжрэччы і заходнім беларускім Палессі прыйшлі славяне. Вынікам іх змешвання з мясцовым насельніцтвам сталася зараджэнне новых народаў — беларусаў, украінцаў, расейцаў. У залежнасці ад таго, з кім зліваліся славяне, фармаваліся і новыя мовы, традыцыі, менталітэт.

На этнічнай тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Невельшчына і Гарадзеншчына), дрыгавічы (цэнтральная Беларусь і паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына), валыняне (Берасцейшчына). Аб'яднаўшыся, крывічы і дрыгавічы ў X стагоддзі стварылі магутную дзяржаву — Полацкае княства, якое стала ядром беларускай нацыі.

Усведамленне старажытнымі беларусамі сваёй адметнасці фіксуецца летапісамі аж з X стагоддзя ў вядомай аповесці пра Рагнеду. А такая характэрная асаблівасць беларускай мовы, як "дзеканне", адзначаецца ящчэ на пачатку X стагоддзя арабскім пісьменнікам Аль-Масуд'і (Абун Хасан Ібн-Хусейн) у слове "эль **людзіна**", якое было саманазвай нашых прашчураў.

Першы вядомы помнік беларускага пісьменства налічвае ўжо болей за 1000 гадоў. Гэта надпіс "Гороушна" на глінянай пасудзіне, знойдзенай археолагамі пад Смаленскам. Таксама X стагоддзем датуецца надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды. Гэта найстаражытнейшыя помнікі пісьменства не толькі на Беларусі, але на ўсім абшары Усходняй Еўропы.

Тое, што некаторымі называецца "Древнерусское государство", строга кажучы, ніколі не існавала. Шматлікія спробы князя Уладзіміра ў канцы X стагоддзя зброяй аб'яднаць усе ўсходнеславянскія землі ўрэшце скончыліся няўдачай. Полацкая зямля ў зацятай барацьбе адстаяла сваю незалежнасць.

**Паважаныя чытачы! Калі вы па нейкай прычыне не дасталі той ці іншы нумар газеты "Голас Радзімы", можна звярнуцца непасрэдна ў рэдакцыю. Мы дапаможам вам набыць газету.**

ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

# З ПОЎНЫМ КОШЫКАМ




"Грыбы клічуць у лес. Сутыкнуўшыся з лесам, чалавек пачынае бачыць навакольны свет іншымі вачыма, усведамляючы, што лес — гэта найвялікшы храм і яго трэба берагчы, як свой родны дом". Так пачынае сваю гутарку з чытачом Дзмітры Бяспалы ў новай кнізе "З поўным кошыкам", што толькі з'явілася ў продажы.

Аўтар кнігі — чалавек, улюбёны ў прыроду, які праслаўляе яе ў сваіх шматлікіх кнігах і апавяданнях. На першай жа старонцы аўтар сцвярджае, што грыбы — дзівосны цуд прыроды. Грыбы — гэта вітаміны, лекі. Грыбы — гэта солі кальцыю, марганцу, медзі, жалеза. Грыбы соляць, сушаць, марынуюць, смажаць — у любым відзе яны цудоўныя. З грыбоў і з грыбамі гатуюць сотні страў.

Аўтар запрашае чытача зрабіць невялікае падарожжа па грыбных месцах, пазнаёміцца з імі і даведацца, як паводзіць сябе, каб не абыходзіла ўдача. А ўдача заўсёды спадарожнічае таму, хто ведае грыбныя тайны і сакрэты, хто паводзіць сябе ў лесе не як выпадковы прахожы, а як беражлівы гаспадар.

Чытач даведаецца, дзе і калі растуць грыбы, як іх збіраюць, апрацоўваюць, нарыхтоўваюць у запас, гатуюць смачныя стравы. У кнізе аўтар дае да 70 рэцэптаў салатаў, соусаў, баршчоў, другіх страў... І ўсё гэта чытач можа прыгатаваць сам па рэцэптах, што апублікаваны ў кнізе.

Тут жа дадзены рэкамендацыі, як апранацца, абувацца, калі ідзеш у лес па грыбы, а таксама калі і колькі збіраць грыбоў і якіх менавіта. Як сцвярджае аўтар, бяры грыбы, але з разборам...

Кніга ілюстравана цудоўнымі каляровымі фатаграфіямі самых розных відаў грыбоў.

Не засталася без увагі і такая важная ў Беларусі праблема, як грыбы і радыяцыя.

**Аляксандр КУРСКОЎ.**



**Цуд-морква.**

**Фота В. БЫСАВА.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1538. Падпісана да друку 1. 11.1993 г.**